**Увэрцюра**

Твае вочы – чорныя, як камяні доўгага ды зьвілістага шляха,
Пранікаючыя, як апошні патрон паміраючага партызана.
Твая скура – загарэлая, як пясок далёкага пляжа,
Чыю назву я ўжо ня памятаю, і не хачу памятаць.
Сьветлая ды нявінная, як поле сланечнікаў, мая паненка,
Твае грудзі – мілыя, як пагоркі травы,
Твой голас – песьня вячэрняга, летняга салаўя.
Твой жывот – залатое поле пшаніцы,
З каранямі ў цэнтры Зямлі.
Твой розум – адказ на мае пытаньне
Тваё сэрца з расталага лёду
Усталёўвае рытм маіх крокаў.
Твае ногі – крылы маіх letраў.
Твае мяккія рукі і мае, грубыя ды шурпатыя,
Створаць новы сьвет.

Гэта ён мне сказаў, мяне абдымаючы,
А цяпер, перад маім адлюстраваньнем у халодным люстэрку,
Жадаю, каб, толькі на імгненьне,
Казаў бы пра мяне,
Пра сваю каханую.

**Да плятанічнага каханьня маладосьці**

**-Раманс бяз слоў**

Ты прыйшоў да мяне ў гасьціную
У гэтую дажджлівую ноч
(Першую восені).
Я ніколі не забуду сьвятло ў тваіх вачах,
Ні цень у тваім выразе.

Я глядзела на цябе, як на Бога,
Зашмат кранута табой, каб загаварыць.
А ты, напэўна, не хацеў заплакаць.
Мужыкі такія.

Ты абняў мяне, моцна й пяшчотна,

Плятанічна й сэксуальна,
У цішыні.

А ліст з маімі нязграбнамі словамі
Ляжаў на тваім ложку.

**-Вакзал**

Калі дождж ішоў сьлёзамі па тваіх шчоках,
Калі ты абняў мяне апошні раз,
Калі сышоў аўтобус твой з вакзала,
А я, шкада, засталася адна...

Я ведала ды не хацела ведаць,
Зразумела, хоць цяжка зразумець –
Адлегласьць маладосьці не даруе,
Гэтая ноч прынясе нам канец!

**-Навошта я так?**

Дзясятае верасьня. Чакаю яго, усё ж такі.
Вясельле сястры заўтра.
А я набыла такую прыгожую сукенку.
Яго няма.

Каляды. Ён патэлэфанаваў.
Сказаў, што сумуе.
І я таксама. Шкада,
Яго няма.

Дваццатае ліпеня. Ён яшчэ далей.
Я баюся крыху. Думаю пра яго.
Ён шмат працуе. Можна сказаць,
Яго няма.

Трыццатае лістапада. Я яшчэ яго кахаю.
Так, магчыма ў наступным годзе,
Я паеду да яго. Цяжка калі
Яго няма.

Шостае сьнежня. Навошта ён так?!
Навошта так пакрыўдзіў?
Я плачу. Добра, што
Яго няма.

Дзевятнаццатае сьнежня.
Навошта я так? Навошта я так?
Шукаю яго. Малюся. Шукаю.
Яго няма. Яго няма. Яго больш няма.

**-Стары здымак**

Знайшоўся у скрыні стары, стары здымак:
Прыгожыя, такія прыгожыя падлеткі,
Хлопчык пастарэй і дзяўчынка,
Вячэраюць разам.

Бачу цябе ўсьміхаючагася, як тады,
І сябе амаль пазнаю.
“Хутка!”, я думаю, “трэба набыць рамку!”
“Трэба захаваць гэты ўспамін
Ад ненасытных зубоў часу!”

Так, я гатовая павесіць здымак на сьцяну,
Глядзець на яго моўчкі,
Стрымліваць слёзы, рабіць выгляд,
Што яшчэ ня страцілі гэтую частку нашага жыцьця.

**Хайку пра родны дом.**

**І. Душ**

Тут душ зьмянілі.
Дзе гарачая вада?
Божа! Гэта лёд!

**ІІ. Шкарпэткі**

Не магу знайсьці
Шкарпэткі ў гэтай хаце.
Мама, дзе яны?

**III. Вялікая кніжная палка**

Паклалі палку
Вялікую у гасьціне.
Вельмі бянтэжыць.

**IV. Валізка**

Цяпер кожны раз
Калі бываю дома
Бачу валізку.

**Да каханка**

**-Мой каханак**

Каханку мой! Твае рукі належаць будучыні,
І я належу цяпер тваім рукам.
Я адчуваю твае ласкі і адраджаюся
У цябе. Ты – маё жыцьцё.
Твае рукі – мой першы кантакт са сьмерцью.

**-Сумеснае жыцьцё**

Будзеш мяне кахаць
Калі буду спаць доўга,
І знойдзеш кастановыя валасы
Нават на тваёй падушцы?

Будзеш мяне кахаць,
Калі я перакулю імбрык
І заплямлю новую сурвэтку
І твае ўлюбёныя штаны?

Будзеш мяне кахаць,
Калі буду глядзець дурныя фільмы?
Калі ванная будзе поўная
Касмэтыкі, адзеньня?

Будзеш мяне кахаць,
Калі будзем ноччу абдымацца,
І будзеш ведаць, што паміж намі
Ужо няма сакрэтаў?

**-Калі мяне ня будзе**

Адчыняй усе вокны, хай будзе сьвежае паветра,
Хай сонца пабудзе з табой, каханку,
Калі мяне ня будзе!

Апрані лепшы касьцюм і чырвоны гальштук,
Купі вялікі торт, кліч адразу сяброў!
Ня будзь адным, калі мяне ня будзе.

Смейся шчыра, танцуй, трошкі пі,
Не здавайся толькі, і ня плач,
Калі мяне ня будзе!

Шукай новую дзяўчынку,
Прыгажэй, разумней, я раўнаваць ня буду,
Калі мяне ня будзе.

Шпацыруй зь ёй, кушай зь ёй
Займайся зь ёй каханьнем.
Жыві зь ёй, калі трэба.

Пра мяне думай толькі,
Калі яе ня будзе.

**-Імпэрыя**

Будзем шпацыраваць па пустых вуліцах,
Сярод зьнежывелых будынкаў
Будзем сумаваць па нашым Бабілёне.

Мэлёдыя мінулага часу будзе гучаць
У мілых галасах птушак,
У зараніцы над горадам,
У сьценах цішыні ды адзіноты.
А мы будзем адны шпацыраваць,
Басанож, рука ў руцэ, па зламаным сьвеце,
Пакуль кветкі растуць паміж старадаўніх камянёў
Нашай былой імпэрыі.

---

**Пасьля вайны**

Так застаўся пакой пасьля вайны:
Чатыры апэльсіны ў пакеціку,
(Ці, можа, толькі тры).
Твой пах у паветры. Мой пах.
Наш з табой пах.
Палова бутэлькі віна,
Мора пасьцельнай бялізны,
Скрынка чагосьці салодкага
(Пустая, вядома),
Ружы, чырвоныя ружы на падваконьні.
Маё сэрца. Тваё сэрца.
Наша з табой сэрца.
На падваконьні паміраюць.
І ўспаміны...
Так застаўся пакой пасьля вайны.
(Нашай з табой вайны).

**Вайна**

А ў запале бітвы
У (цяпер нашым) горадзе ціха,
І ў пакоі цяпло.
У трывожным спакоі ночы
Сьнег падае павольна.
Толькі каля белага будынка,
Дзе працуюць шэрыя мужчыны і жанчыны
(Цяпер таксама ноччу)
Гараць сьвечкі, зьнікаюць кветкі

Белыя, чырвоныя, блакітныя, жоўтыя...
Яны ў цемры ўсе аднолькавыя.
Кроў на камянях плошчы,
Новая, сухая,
Мэталічны смак удару
(Ці ўспамін пра яго):
Усё ў цемры аднолькава.
Сьлёзы.
Разьвітваемся. Цалуемся.
Ты кажаш, “я цябе кахаю”,
Я кажу, “я таксама”.
Мы кажам, “беражы сябе”.
Думаем, “які складаны час, каб закахацца!”.
Гэтага ня кажам.
Ідуць танкі.

**Бездапаможнасьць**

Чаму ня згасла сонца?
Чаму не пераапранулася неба
У чорныя хмары?
Чаму ня змоўк сьмех?
Чаму не перасталі гуляць дзеці на вясёлай вуліцы?
Чаму, ўсё ж такі, пачалася вясна?
Чаму вярнуліся чорныя ластаўкі
Да нашага гаўбца?
Чаму цябе няма?
Чаму яго няма?
Чаму радуюцца людзі?
Хіба ня бачаць, што няма паэзіі?

**Žeme, sukis greičiau!**

Зямля, круціся хутчэй,
Каб я згубілася ў часе!
Каб я нічога ня бачыла,
Каб ня чула,
Каб не адчувала.
Зямля, круціся хутчэй,
Каб я таксама

Хутчэй сьпявала
У чароўным лесе,
Дзе стаіць старадаўняя вежа нашых募募мараў.
Зямля, круціся хутчэй,
Ператвары мяне ў птушку,
Каб я глядзела зьверху на турботу,
Каб нарадзілася ад цябе зноўку,
Сярод попелу.

**Пад зямлёй**

Гадзіны павольна ходзяць
Калі холад, ноч і адзінота.
Малады хлопец чысьціць бруд з ботаў,
У соты раз перачытвае яе ліст,
Словы якога даўно страцілі значэньне.
“Ды сумна жыць духам, ды без душы...”
Моцна трымае халодны мэтал.
Да зоры яшчэ чатыры гадзіны;
Як усё ціха! Як усё цёмна!
Да пацалунку яшчэ адзінаццаць месяцаў і шэсьць дзён;
Як крычыць сэрца! Як плачуць яе зялёныя вочкі!
Думае пра ўсякія глупствы:
“А можа, маюць рацыю з гэтым словам...
Мы пад зямлёй жывем”.

**Будзе**

Ды зноўку будуць мары, будзе сонца,
І будуць бегаць коні па дарогах,
Будзе гучаць твой голас на спатканьні,
Будзе каханьне!

Ды будуць кветкі новыя ў нашых сэрцах,
Будзе вясьна ў душы, цёпла, прыемна,
Будуць зьзяць зоркі ды новая эра,
Будзе вера!

Ды будуць сьлёзы, дабро, зло ды шчасьце,
Будуць песьні, прыгожыя дзяўчыны,

Зноў будзе сьмех, пачуцьцяў сінэстэзія,
Будзе паэзія!

**Да Кіхота**

Куды ты, пераможаны мой рыцару?
Куды, саколе зламанага крыла?
Вяртаесься назад да родных раўнінаў,
Або жадаеш пабачыць мора апошні раз?
Не сыходзь! Браня твая трэснутая!
Дазваляй мне аднавіць яе, хоць слязьмі...
Ты паранены, дазваляй чысьціць кроў,
Дай насіць твой шчыт.
Адпачні! Пачакай...
Буду твая Дульсінэя!
Сьпі, мой волат, сьпі ля дарогі,
Засынай у пацалунках...
Заўтра пойдзем зноўку, разам,
У пошуках праўды!

**Горад**

Легенда абвяшчае, што дзесьці ёсьць горад,
Восеньню золата і агню,
Дзе зіма разразае паветра, як тысяча нажоў,
Пакідаючы кроплі крыві, зь якіх будуць расьці кветкі
Вясны, якая заўсёды спазьняецца.
Горад, які абмываецца ўспамінам пра паўночнае мора
Ды старадаўнія сны.
Дзесьці ёсьць горад, дзе трэба прабачаць неба
За ягоную шэрасьць, за шчырасьць.
Горад, куды ўсмешкі ідуць на сьмерць,
Дзе хаваецца каханьне пад белай коўдрай,
А паэзія пад зямлёй.
Горад, які выжыў сто бітваў,
Верхам на першабытным кані.
Горад, дзе, быць можа, жыве той чалавек,
І губляецца сярод сумных, чужых твараў у мэтро,
І адначасова бачыш, і ня бачыш.
Горад, дзе хтосьці знаходзіць шчасьце...

А хтосьці, ну, ня тое, праўда, што шчасьце,
Але вельмі падобнае адчуваньне.
Гэтага дастаткова.

**Да зьмяі**

Я згубілася сярод шчасьлівых твараў,
Дурных і пустых усьмешак.
Шкодзяць мне тупыя мяккія сьцены
Гэтага новага сьвету.
Не баліць нічога, мы страцілі страсьці
Нішто ўжо ня мае значэньня
Тут няма ні каханьня, ні смутку, ні болю,
Вар’яцтва, здзіўленьня, сумненьня!
І гучыць той голас, занадта салодкі
“Адаме, ты вольны, жыві!”
А вуліцы чыстыя мяне пытаюць,
Чаму ж уляцела Ліліт.
Я вельмі стамілася ад прывітаньняў,
Ад ветлівасьці, ад бясьпекі,
“Усё будзе добра”, “вось табе гарбатка”,
“Калі ласка, лепш прымі лекі”.
О зьмяя! Памілуй! Дай мне, зьмяя, яблык!
Хуткім джалам дай твайго яду!
Выратуй мяне ды майго каханка
Ад цемры цэмэнтнага раю!

**Анёл**

«Ты – мой анёл», сказаў мне ён пяшчотна,
Мяне абдымаючы ў мяккім ложку,
А я ляжала моўкі сярод белых прасьцінаў,
Маё адзінае адзеньне – ягонае цёплае цела,
Ягоны пот і пах яго ўва мне.
А за акном спазьняецца зара
(На наша шчасьце).
На стале – мае кнігі, маніфэсты,
Непрыстойныя вершы пра цябе, можа й пра іншых
У маім почырку.
У галаве ўспаміны занатда сумныя,

Каб можна было забыцца,
Прага праўды, ды ведаў... Ды помсты.
«Я такая, як ты, о, Палы Анёл!»
Маўчу.
«Анёл ты мой! Ты адна дала мне крылы!»
Абдымаю і маўчу,
Бо разам з табой паляцім у пекла.

**Сьпячая прыгажуня**

Пабудзі мяне праз сто гадоў,
Калі скончыцца паклён,
Які вісіць над нашым каралеўствам.
Скрадзі мяне, забяры мяне на белым кані
Ў твой далёкі казачны лёс.
Але сьпярша дай мне спаць,
Халоднай ды спакойнай,
У вежы са слановай косьці,
Дай мне апошні пацалунак і сыйдзі...
Пабудзі мяне праз сто гадоў,
Толькі тады вярніся, скрадзі мяне,
Сярод руж і лілей пацалуй зноўку,
Калі скончыцца паклён.
Глядзі на мяне блакітам тваіх вачэй,
Вярні мне імі маё роднае мора...
Пабудзі мяне праз сто гадоў,
З тым жа каханьнем, з той жа пяшчотай,
Быццам ніколі не сказаў “бывай”,
І хай гэтае доўгае стагодзьдзе
Будзе для мяне хвілінай.

**Сон**

Я мела ўчора ўсьвядомлены сон
Першы раз у жыцьці.
Мне зь дзяцінства кепска сьпіцца;
Кажуць, мой розум занадта актыўны,
Асабліва ў ночы.
А ўчора вось падчас сну,
Я сьвядома зразумела, што я сплю.

Вар’яцтва!
Атрымлівалася рабіць усё, што я хацела:
Я, вядома, паляцела,
Пайшла на пляж і купалася у моры,
Шпацыравала па Варшаве,
Сьпявала зь сымфанічным аркестрам,
Абняла маіх сяброў,
І займалася вельмі брудным сэксам з каханкам,
Які зараз вельмі далёка знаходзіцца.
Так я даведалася,
Што маё сэрца ня поўнае нянавісьці,
Ні тугі па мінуламу.

**Дзядуля**

Тата майго таты навучыў мяне гуляць у шахі
Тату маёй мамы я ніколі не сустрэла.
Кажуць, што быў вельмі разумны,
Што вывучыў ангельскую за рулём таксоўкі,
Што быў моцны ў матэматыцы,
Шчодры, з характарам,
Што шчыра кахаў маю бабулю,
І заўсёды хацеў, каб дзеці мелі адукацыю.
Я ня маю нават паняцьця, якім быў ягоны сьвет,
Не атрымала ў спадчыну ягоную фінансавую здольнасьць,
Ягонае асаблівае пачуцьцё гумару,
Ні ягоны нос, мяркуючы па здымках.
Але тое адчуваньне, што я жыву ва ўцёках ад чагосьці
(Або, можа, у пагоні за нечым іншага),
Што я ўсюды крыху замежніца,
Ды крыху мясцовая,
Мабыць ад яго атрымала.

**Танец незнаёмца**

Раз, два, тры,
Раз, два – пачынаецца яшчэ танец.

Ты сьпяшаў кудысьці,
Раптам – незнаёмец,

Пачынаецца туды-сюды.

Можа будзе пара
Шчырых выбачэньняў,
Мо часу няма на вальс,

Можа будзе сьмех, ці
Можа ўздых глыбокі,
Погляд сярдзіты і злы.

Раз, два, тры,
Раз, два – пачынаецца яшчэ танец.

А хіба каханьня
Можа нарадзіцца
З гэтае няёмкае гульні?

Раз, два, тры,
Раз, два...
Права, лева... І бывай!

**Старая сяброўка**

Ты падышла да мяне, старая сяброўка,
Зь вялікай усьмешкай на твары.
Ты абняла мяне,
Пацалавала двойчы,
Сказала, што я скінула вагу,
І спыталася, ці брацік скончыў школу,
Ці я яшчэ ў Гранадзе вучуся,
Ці я на доўга тут.
Пацікавілася здароўем бацькоў,
Нават бабулі.
Я, вядома, усьміхнулася,
Адказала на пытаньні,
Спыталася, ці ў вас усё добра.
А ты штосьці сказала
Пра новага хлопца,
Каханьне твайго жыцьця.
Мы размаўлялі хвілін дзесяць.

Я абяцала патэлэфанаваць,
Пайсьці калісьці на каву.
О, старая сяброўка, калі б ты ведала,
Я ня маю паняцьця,
Хто ты гэткая.

**Раяль ля мора**

У гэтую раніцу позьняе вясны, або раньняга лета,
Стаяў раяль на беразе нашага мора.
Хвалі тонка лашчылі ногі фартэпіяна,
Марская пена старалася пераймаць бель слановай косьці.

Ніхто ў рыбацкай вёсцы мог нават уявіць,
Адкуль узяўся прыгожы драўляны раяль,
Які таямніча стаяў на залатым пяску,
Ціхі й грацыёзны, велічны й самотны, ля мора.

Можа, калісьці сыйдзе зь неба на зямлю,
Анёл са спакойнымі, яркімі вачыма,
І зайграе старажытную, даўно забытую мэлёдыю,
Каб сьпяваў у захапленьні той раяль на беразе раю.

**Маленькая граматыка**

**-Дзеяслоў-звязак**

О, дзеяслоў-звязак!
Часам адчуваю, што я, як ты,
Прыгожая, але бескарысная.
А час ад часу, хаця рэдка,
Ты й ёсьць патрэбны.
Спадзяюся, я таксама.

**-Кропка з коскай**

Дарагая кропка:
Некаторыя нават ня ведаюць,
Што бываеш з коскай;
Іншыя ня ведаюць,

куды вас паставіць.
Я вельмі вас люблю;
Ня маю патрэбу ў саюзах.

**-Мяккі знак**

Арфаграфічны анёл,
Ты зьмягчаеш іншых літараў,
Супакойваеш іхны характар,
Падсаладжваеш іхныя сьпевы,
Калі трэба.
Прабач мне, мяккі знак,
Прабач нам усім
За недарэчнасьць.

**-Пытальнік**

Калі я першы раз пачала
Вывучаць замежную мову
(Ангельскую, прычым)
Я пыталася, дзе твой сябар.
Дзе, пытальнік, той памочнік,
Хто можа расчысьціць табе шлях.
А калі гэта, насамрэч, дзяўчынка,
Каханая твайго сэрца...
¿Вы не хацелі бы быць разам?

**-Клічнік**

Захапленьне, абурэньне,
Радасьць, моцны боль, зьдзіўленьне,
Тэрміновыя заказы,
Горшага тыпу абразы,
Рэвалюцыю, зьмаганьне,
Паражэньне, перамогу,
І ўзвышанае каханьне
Выказваю праз цябе,
Клічнік. Шчыры дзякуй!

**-Кропка**

Рака нашых слоў ды прамоваў
Цячэ ў тваё мора, кропка!
Ты – каралева цішыні,
Зацішша пасьля буры,
Канец гэтае граматыкі.
Магчымасьць новага пачатку.

**Згушчаныя гісторыі. Беларусь. Мужчынская сэрыя.**

I. Ён ніколі не губляў надзеі, хоць сытуацыя была сапраўды цяжкая і краіна, за якую ён змагаўся не была цалком яго. Ён нават не падумаў пра магчымасьць кінуць сваю касу і бегчы. Пачуўшы размовы вакол (адну на літоўскай мове, іншую на польскай), ён адчуў сябе неяк мацней. Кожная сям'я накіравала здольнага маладога чалавека, каб прадстаўляў іх у гэтай вырашальнай вайне, і адчуваньне сябе часткай чагосьці суцяшала яго. І, па праўдзе кажучы, думкі пра свой лёс па-за адзіным грамадствам, якое ён ведаў, яго палохалі.

II. Два дні прайшлі з моманту, калі ён увайшоў ва ўсходні форт цытадэлі. Два дні прайшлі амаль бяз шуму, у асяродзьдзі слабым пахам пораху і тоўстых, чырвона-цагляных сьцен крэпасьці. Ужо з дэфіцытам прадукты харчаваньня і паставак, яго таварышы распавядалі гісторыі, каб прабавіць час, не згадваючы пра адсутнасьць контратакі, ні пра тое, што іх засталося няшмат. Нас ня больш за чатырыста, ён падумаў, паглядзеўшы вакол сябе. Але я не пакіну крэпасьць, і яны таксама. Выбух прагучаў рэхам, як голас Бога. Асьляпляльнае святло. Абсалютная цемра.

III. Яшчэ адзін дзень, ён бачыў, як на світаньні кідаюць цела яго таварышаў да сьнегу, на зьядзеньне ваўкам. Потым прывезьлі новых (яны маладыя, падумаў ён з горам), твары якіх ён беспасьпяхова стараўся не запомніць. Калі б не яго непарушная вера, праца і невыносны холад яго б забілі за два гады. Зьнясіленьне зноў заваявала яго зацёклыя кагцавіны. Ноч была цёмная, калі ён вярнуўся ў дзірку, дзе ўсе яны (ўсе трыста) разам спалі. Яны сапраўды не былі вартыя нават аднаго патрона. Ён маліўся.

IV. Юнак ніколі не зразумеў, што зь ім здарылася. Магчыма, гэта было стомленасьць чуць хлусьню, або ад адстаўцы, або чыстая цікаўнасьць. Ён сышоў на плошчу, нават не папярэдзіўшы сваю сьпячую бабулю. Ён ішоў, і сьпяваў, і пляскаў разам зь іншамі, як бы ў нейкім трансе; ён нават некалькі хвілін трымаў канец банэра. Яго цела пакінуў малінавы сьлед на белізне сьнегу. Хіба гэта было

дрэнная прыкмета? Знак надзеі? Юнак ніколі не зразумеў, што зь ім здарылася.

**Згушчаныя гісторыі. Беларусь. Жаночая сэрыя**.

I. Яна пайшла ў лес у адзіночку, апранутая ўся ў белае. Яна села на траву і пяшчотна запляла з сабраных ёю васількаў невялікі вянок, які яна з нецярпеньнем паклала сабе на жытнія, светлыя валасы. Такім чынам, зь вянком на галаве, пакуль ветрык лашчыў яе белую сукенку, яна павольна спусьцілася да плыні ракі. Пасьля некалькіх дажджлівых, раньневясновых дзён, сонца сьвяціла ярка на яе твар. Яна пачула сьпевы зязюлі тры разы, калі кінула вянок у ваду. Яна думала пра яго, пакуль глядзела, як ён тоне.

II. Прайшлі тры гады з таго часу, як хлопчыкі апошні раз наведалі сяло. Яна была ў захапленьні. Яе дачка пакінула абодвух зь “люблю цябе, мамуля!”, і яна пачала радасна распавядаць ім, як шмат яны вырасьлі, і якімі цудоўнымі будуць вакацыі. “Бабушка, помедленее, в школе мы пользуемся только русским. Мы тебя не понимаем!” Яна міла ўсьміхнулася і спытала на сваёй іржавай рускай мове, ці яны галодныя. Яны елі моўкі. “Я ня памятаю ні адной калыханкі на рускай мове”, сказала яна, калі прыйшоў час класьціся. “Ничего, мы всё-таки уже большие, бабушка”.

III. Маладая дзяўчына зьняла крыж і пакінула яго на тумбачцы. Так ці інакш, яна ведала , што не павінна насіць яго з сабой у тую ноч. Там не было ніякага іншага выбару; яна ніколі не магла бы сказаць бацьку, ні каго яна вырашыла кахаць, ні чаму... Яна сама ня ведала, чаму. Яго не было дома, і было ўжо пасьля трох раніцы, так што не было ніякіх шанцаў, што яе пабачаць. Яна, тым не менш, дабегла да моста. Калі яна закрыла вочы, гатовая скакаць, яна адчула, як *яе* цёплая рука лашчыць яе прытупленыя пальцы.

IV. Яна ніколі ня здолее ў поўнай меры ў гэта паверыць, але яна зрабіла для яго ўсё, што змагла. Яе суседзі задаваліся пытаньнем, дзе яна знайшла ў сабе сілы, каб працягваць моўчкі абіраць бульбу. “Дранікі – яго ўлюбёныя”, прамармытала яна. Яна часта пераблытвала любыя крокі з крокамі сына і пыталася: хто там ідзе? Кранутая ўвагай нацыянальных (і яшчэ, хаця радзей, міжнародных) СМІ, якую атрымала, яна не магла не захаваць невялікі сьлед надзеі ў сэрцы. Гэтае надзеі было дастаткова, каб зьнішчыць яе, калі яна, нарэшце, атрымала ліст. "Вы можете получить свидетельство о его смерти по адресу..."

**Прашу прабачэння**

Ноч. Маладая дзяўчынка глядзіць на мяне зь іншага боку шкла. У яе чорных вачах калісьці гарэў агонь. Гэта відавочна. Зараз адна пагарда. Яна нічога ня кажа; толькі глядзіць. Але я, здаецца, усё разумею. У бледным яе твары сьвеціць сьвятло, дадзенае страчанай нявіньнасцю і апошнім чыстым каханьнем. Яна ледзь жывая, а якая пагарда... Гучаць ува мне словы польскай песьні... A w sercu już, zamiast krwi popioły tylko i kurz... Так, у сэрцы засталіся толькі попел і пыл. "Паэтам", яна кажа шэптам і жорстка усьміхаецца, "трэба таксама спаць". Яна сьмяецца. Я разумею, што я яе ведаю. Ёй амаль 18 гадоў. 17 назаўсёды. Яна ўсё ж сьмяецца і незямным голасам мне распавядае, як дурна плакаць за палюбоўніка... "Ты, о паненка, зь іншага боку шкла", кажа ўрачыста (а я старэйшая за яе, мне зараз амаль 21), "каго любіш?", пытаецца. Яна, зразумела, сьмяецца зь мяне. І слушна. "Паэтам трэба таксама спаць, і дзяўчынкам таксама", яна кажа. Сьмяецца. Я маўчу і плачу. Я ведаю, што за тры гады нічога не дасягнула. У мяне адна пантаміма. У яе адна пагарда. "Даруй", я кажу. "Ідзі спаць", яна адказвае. "Прашу ў цябе прабачэньня". "Паэтам", яна прамаўляе гэтае слова з агідай, "трэба таксама спаць".

Раніца. Люстэрка паказвае малады твар зь цёмнымі кругамі пад вачыма. У галаве толькі адна думка: "Уставай, пішы, твары!". У вуснах адна фраза: "Паэтам трэба таксама спаць". А ў сэрцы, ужо толькі попел і пыл? Не, ёсць раскаяньне, ганьба і абяцаньне ўсё выправіць. А ўсё ж такі на імгненьне здаецца, што яна ўсё сьмяецца...

**Яму**

Калі я была зусім маленькая – я навучылася чытаць даволі рана – я мела кучу кніг народных казак, і гішпанскіх, і міжнародных. Я доўгімі гадзінамі чытала ды чытала; вядома, я менавіта там упершыню пачула слова «каханьне».

Зараз я вялікая, чытаю клясычную літаратуру, але ўнутры часам адчуваю сябе, як спужаная дзяўчынка. Чаму, вы пытаецеся? Распавяду:

Калі я ў дзяцінстве чытала пра каханьне, прынцэсам ня трэба было губляць яшчэ 5 кіляграмчыкаў, прынцы мелі здаровыя ногі, і абсалютна ўсе захапляліся рыцарам ў бліскучых дасьпехах. Тады лёгка было выдаліць дрэнных цароў, і заўсёды знаходзіўся спосаб, каб не аддаць першароднага дрэннай ведзьме. Калі я ў дзяцінстве чытала пра каханьне, самаго каханьня заўсёды было дастаткова, і можна было пераадолець самыя вялікія адлегласьці за ноч. Кароль і каралева былі заўсёды рады аддаць руку і сэрца дачкі каханаму, і самая галоўная прыгажосьць, вядома, была ў душы.

Зараз я, як маладая дарослая дзяўчына, адчуваю сябе ўразьлівай, таму што я зразумела, што нават каханьне не бывае ідэальным. Ні жыцьцё, ні справядлівасьць, ні праўда. Ні я.

Але яны ўсе невыказна прыгожыя. Нават больш, чым калі я пра іх чытала ў дзяцінстве. І таму я імкнуся, спадзяюся, дыхаю.

Кахаю.

**Вар'яцва (маніфэст)**

Сьвет вар'яцее. Сытуацыя ў Крыме - шалёная. Самалёты раптам зьнікаюць. Людзі ня вераць у каханьне.

А я сяджу ў інтэрнаце ў Гранадзе й пішу па-беларуску (яшчэ й тарашкевіцай!). Паэзію. Пра палітыку. Пра сьмерць. І вельмі часта пра каханьне. Пра маё каханьне. І веру.

Ёсьць, вядома, такія моманты, калі я думаю, ці варта. Ці варта пісаць, рабіць, сьпяваць... Кахаць. Потым я гляджу на каляндар. Бачу, што ў нас год 2014. Складаны час, будуць казаць праз гадоў 50. Ці 100. Напэўна. Я разумею, што ня толькі "варта", а "трэба". "Абавязкова". І пішу я далей, і рыхтуюся да наступнага года.

Я думаю пра сябе, пра свой шлях у жыцьці. Мне 21 год, і я вельмі шмат навучылася замала часу. Я пачыналася пісаць пра Беларусь у сьнежні 2010. Мне было тады 17 (так, вы моцныя ў матэматыцы). Я тады нават не ведала беларускую мову (вельмі мне сорамна), але ж я ўжо ведала, што хачу пісаць пра вас. Пра Беларусь. І пра свабоду. І пра каханьне. Пажадана ў адным сказе.

І яшчэ хачу.

Кажуць, што *что-то не так.* Я лічу, што шмат чаго ня так. І ў мяне таксама. Я псыхалягічна трохі няўстойлівая, я маладая, у мяне шмат сумневаў і я раблю памылкі, калі пішу па-беларуску (асабліва тарашкевіцай!). Але ўсё ж такі, я ведаю, што пісаць трэба, і вельмі шмат. І сьпяваць. І кахаць, нават калі думаеш, што зноўку зробяць балюча.

**Пішыце!** Не думайце пра памылкі, пра кляксы. Будзе дасканалы верш. **Сьпявайце!** грайце, нават калі гітара дрэнна настроена. Будзе новы, слаўны гімн. **Кахайце!** Ня думайце пра благое. Ня бойцеся, што зробяць балюча зноўку. Знойдзецца чалавек, які ніколі не пашкодзіць.

І любіце **Радзіму**. Будзе **будучыня**.

Дабранач. Я буду пісаць далей, і адпачываць.

Se pone el sol, se apagan las estrellas del cielo,
Se acalla ya el murmullo lloroso de la mar
Tapa su faz la luna con su velo de noche
Y reza en las exequias de aquesta oscuridad;

Resuenan los caballos, lejos en la distancia,
La escarcha hace mosaicos sin pena ni dolor,
Duermen las golondrinas ateridas de frío
Y sobre la colina se desnuda una flor;

El trigo de los campos mece el viento ominoso,
El polvo del camino se agita sin cesar,
Aún más se hunde la noche, se conjuran las nubes,
Acecha la tormenta, se esconde la verdad,

Y lloran quedamente en la alameda las hojas,
Las figuras ecuestres se suceden sin fin,
Duermen todos los pueblos, los ríos lentos fluyen,
Todas las chimeneas ennegrecen de hollín,

Y las campanas viejas, mudas, resquebrajadas,
No tocan por el alma desgraciada y sin dios;

Perturba la penumbra el destello de la espada;
Del cabalgar los ecos mueren en el reloj.

¡Ya se ven, tenebrosos, los primeros jinetes!
Se acerca ya el destino, avanza el batallón
Que se lanza, terrible, con toda gallardía,
Celeridad y audacia, a mi persecución.

Сонца садзіцца, зоркі на небе выключаюцца,
Ужо маўчыць плаксівы шум мора,
Месяц хавае твар сваім начным вэлюмам
І моліцца на пахаваньні гэтай цемры;

Чуваць рэха коней, далёка, на адлегласьці,
Мароз робіць мазаікі бяз жалю і болю,
Сьпяць ластаўкі, хаця анямелі ад холаду,
І на ўзгорку распранаецца кветка;

Злавесны вецер пагойдвае пшаніцу поля,
Пыл дарогі пастаянна зьмешваецца,
Усё больш тоне ноч, змаўляюцца хмары,
Бура мне пагражае, хаваецца праўда.

І плача ціха лісьцё на алеях
Конныя фігуры адна за адной бясконца,
Сьпяць усе вёскі, рэкі цякуць павольна,
Усе коміны чорныя сажай,

І старыя, тупыя, патрэсканыя званы
Ня звоняць па няшчаснай, бязбожнай душы,
Выбліск мяча рэжа цемру,
Рэха коней памірае на гадзіньніку.

Відаць ужо цёмных першых коньнікаў!
Набліжаецца лёс, прасоўваецца батальён,
Які вызваляецца, жудасным, з поўнай галянтнасьцю,
Хуткасьцю ды дзёрзкасьцю, у пагоню за мной.

Por los desesperados sin dicha ni consuelo,
Por todas las cabezas que ruedan por el suelo,
Por aquellos que tienen la armadura oxidada,
Por los que no perdonan a la tierra, a la nada;

Por la flor del naranjo que perfuma la calle
Y por las rosas blancas que crecen en el valle;

Por esa margarita que muere deshojada,
Por el abedul viejo de la copa dorada,

Por los enamorados de tierras lituanas,
Por los que hacen de dos naciones dos hermanas,
Por ese ruiseñor de sonora garganta,
Que, posado en el borde del bosque, llora y canta;

Por todos los abrigos perdidos en invierno,
Por las almas en pena que suben del infierno,
Por los abandonados cuya vida les pesa
Y por los funcionarios sentados en su mesa;

Por los que se levantan y luchan a destajo,
Por todos los que caen escaleras abajo,
Por aquellos que sienten en su alma una tenaza,
Por la sangre en el níveo adoquín de la plaza,

Por los antepasados del África profunda,
Por el violín de roble confinado a su funda,
Por el alba tras el ocaso y la guadaña,
Por la mujer morena que baila en la montaña,

Por el profeta mudo al que escupen en la boca,
Por el barco de vela que se estrella en la roca,
Por las revoluciones echadas ya por tierra,
Por el único hijo que se pierde en la guerra,

Por las cartas de amor que quedan sin respuesta,
La pequeña fortuna perdida en una apuesta,
Por el príncipe humilde y la traición de su amada,
Por el tren que se lleva al alma atormentada;

Por el juez sin mesura que mata al inocente,
Por la corona amarga tejida por la gente;
Por ellos sufro y gozo, por ellos me desvivo,
Por ellos de mi pluma estas palabras escribo.

Дзеля тых у роспачы, бяз радасьці і суцяшэньня,
Дзеля кожнае галавы, якая коціцца па падлозе,
Дзеля тых, у каго дасьпехі іржавыя,
Дзеля тых, што не прабачаюць ані зямлі, ані нічому;

Дзеля кветкі апельсіна, якая аддае свае духі вуліцы,
І дзеля белых руж, якія растуць у даліне;
Дзеля таго рамонку, які памірае голым,

Дзеля старой бярозы з залатой лістотай,

Дзеля закаханых літоўскіх зямель,
Дзеля тых, хто робіць з двух народаў дзьвюх сясьцёр,
Дзеля таго салаўя мэлядычнага горла,
Які на краі лесу сьпявае ды плача;

Дзеля ўсіх паліто, згубленых зімой,
Дзеля душ, які пакутуюць, і падымаюцца зь пекла,
Дзеля закінутых, якім жыцьцё цяжкае,
І дзеля чыноўнікаў, што сядзяць за сваім сталом.

Дзеля тых, хто падымаецца й змагаецца да сьмерці,
Дзеля ўсіх тых, хто зваліцца зь лесьвіцы,
Дзеля тых, хто адчувае сваю душу ў ціску,
Дзеля крыві на сьнежным камені плошчы,

Дзеля продкаў глыбокае Афрыкі,
Дзеля скрыпкі з дуба, схаванае ў футарале,
Дзеля сьвітанку пасьля заходу й касы,
Дзеля цемнаскурае дзяўчыны, якая танцуе ў гарах,

Дзеля нямога прарока, якому плююць у рот,
Дзеля парусьніка, які разьбіўся аб скалы,
Дзеля рэвалюцый, якія не ўдаліся,
Дзеля адзінага сына, страчанага на вайне,

Дзеля любоўных лістоў, якія застаюцца без адказу,
Дзеля невялікага майна прайгранага,
Дзеля сьціплага князя і здрады ягонае каханае,
Дзеля цягніка, які прымае змучаную душу;

Дзеля судьдзі без абмежаваньня, які забівае нявінных,
Дзеля горкае кароны, вытканае народам;
Дзеля іх пакутую, радуюся, імкнуся,
Дзеля іх я пішу гэтыя словы з майго пяра.

Esto no es un poema.

Estaba llena de hombres que lloraban por su patria.
La casa. La Plaza.
Esto no es un poema.
Había hombres que ya no sabían llorar.
Había otros que nunca habían llorado.
El frío, el terror, el golpe que no cesa.

Nieve y sangre.
Esto no es un poema.
Aquí no hay primavera, no hay aurora,
Ni estrellas en el cielo, ni ojos negros,
Mejillas sonrojadas, mariposas.
Esto no es un poema.
"Os quise bien, y, quizás, aún os quiera..."
O quizás el amor ya se apagó.
No es un poema, esto no es un poema.
Se pierde el eco de su tierna voz...
"Es hielo abrasador, es fuego helado..."
Noche, noche.
Las Musas se han fugado, no hay ya versos.
¿Les queda la palabra?
"Mientras exista una mujer hermosa..."
El miedo al bello gesto desafía.
Mientras caminen con los ojos tristes,
¿Habrá poesía?
Es una pesadilla, es un mal sueño,
Es una flor que no se puede abrir.
El mágico momento no ha llegado,
Y se fue la poesía que hubo en mí.
Me olvidé de escribir.
No es un poema, esto no es un poema.
Me olvidé de llorar.
Esto no es un poema.

Гэта ня верш

Было поўна людзей, якія аплаквалі сваю радзіму.
У доме. На Плошчы.
Гэта ня верш.
Былі людзі, якія ўжо ня ўмелі плакаць.
Былі і іншыя, якія ніколі ня плакалі.
Холад, тэрор, бесьперапынны ўдар.
Сьнег ды кроў.
Гэта ня верш.
Тут няма вясны, няма сьвітанку,
Няма зорак на небе, ані чорных вачэй,
Чырванеючых шчок, матылькоў.
Гэта ня верш.
“Я вас кахаў: быць можа мімаволі...”,
А можа й каханьне скончылася.
Ня верш, гэта ня верш.
Губляецца рэха пяшчотнага голасу…
“Гэта гарачы лёд, гэта  замарожаны агонь...”

Ноч, ноч.
Музы ўцяклі, няма ўжо вершаў.
Маюць усё яшчэ слова?
“Пакуль будзе прыгожая дзяўчына...”
Страх кідае выклік прыгожаму твару.
Пакуль будуць хадзіць з сумнымі вачыма,
Будзе паэзія?
Гэта кашмар, гэта дрэнны сон,
Кветка, якую нельга адчыніць.
Чароўны момант не прыйшоў,
І сыйшла ўся паэзія ўва мне.
Я забылася, як пісаць.
Ня верш, гэта ня верш.
Я забылася, як плакаць.
Гэта ня верш.

**The mermaid**

There once lived a little girl
On the soft shores of the sea.
She was pretty like the sun,
Like its light bright was her glee,
Her hair was as black as coal,
Her skin white, as snow could be
And her eyes as deep a blue
As the furious, stormy sea.
Her father was an old sailor
Who would stroll along the beach
Collecting shells and remembering
How he crossed the seven seas
And on his long, daily walks,
By his hand she'd always be.
Her mother was a fine lady
Who was fond of being free
And had left them for a lover
When the girl was barely three.
One day the father fell ill
From flu, from melancholy,
And the girl went out alone
And thus she talked to the sea:

"Please, give health to my dear father
For he's all the light for me"
And the vast, powerful ocean
Answered thus, with his voice deep:
"My beautiful Northern Star,
Graceful seagull, wave so sweet,
I shall give health to your father
But then you will stay with me!"
And the girl, with valiant foot,
Walked into the deep, blue sea
And became a pretty mermaid
And on the foam went to sleep.
And her friends, the dolphins, carried
Her to play with them with glee,
And her father went to see her
Every morn upon the sea...

**Русалка**

Жыла некалі дзяўчынка
На мяккіх берагах мора.
Была прыгожая, як сонца,
Радасная, як ягонае яркае сьвятло,
Ейныя валасы былі чорныя, як вугаль,
Скура белая, як сьнег бывае
І сінія вочы глыбокія,
Як разьюшанае, бурнае мора.
Бацькам быў стары марак,
Хто шпацыраваў па пляжы
Зьбіраў ракавінкі, памятаючы,
Як пераплыў сем мораў
І на сваіх доўгіх, штодзённых прагулках,
Была заўсёды рука ў руцэ.
Ейная маці была файнай дамай,
Якая любіла сваю волю,
І пакінула іх дзеля каханка,
Калі дзяўчынцы было ледзь тры.
Аднойчы бацька захварэў
На грып, на тугу,
І дзяўчына пайшла адна
І яна так сказала мору:
"Калі ласка, дай здароўе майму дарагому бацьку,

Маё сьвятло – гэта ён "
І пераважны, магутны акіян
Адказаў так глыбокім голасам:
"Мая мілая Паўночная зорка,
Хупавая чайка, пяшчотная хваля,
Я вярну здароўе бацьку,
Калі застанесься са мной! "
І дзяўчына, доблеснай пешшу,
Ішла у глыбокай, сіняе мора
І стала прыгожай русалкай
І на пене заснула.
І яе сябры, дэльфіны,
Вялі яе зь імі гуляць,
А бацька хадзіў да яе
Кожную раніцу на мора...

**Demolitus est monumentum**
**Пам'ятник зруйнований**

О ні! Це не був дощ своїм гнівом великим,
Не вогонь і не вітер своєю силою,
Ніякий ураган у Києві не дув диким
Насильством. Не впав він бурею підземною.

Пам’ятник, що стояв, як рваний, вічний шрам
Тому, хто заглушив ліру пристрастей милих;
Тому, хто і досі має в Москві свій храм,
Кому століття тому казав мовою інших

Що Вкраїна належить йому; без слів, без бою.
О ні! Це не був дощ своїм гнівом великим,
Не вогонь і не вітер своєю силою,
Він не впав через бурю, через ураган дикий,

Ні через довгий час, через лід, через воду,
А впав він через волю вкраїнського народу.

**Demolitus est monumentum**
**Помнік разбураны**

О не! Гэта ня быў дождж сваім вялікім гневам,
Не агонь і ня вецер сваёй сілай,

Ніякі ўраган у Кіеве не дзьмуў дзікім
Гвалтам. Ня ўпаў бурай падземнай.

Помнік, які стаяў, як ірваны, вечны шнар
Таму, хто заглушыў ліру запалу мілага;
Таму, хто пакуль мае ў Маскве свой храм,
Хто стагоддзе таму казаў на мове іншых

Што Ўкраіна належыць яму; бяз слоў, бяз бою.
О не! Гэта ня быў дождж сваім вялікім гневам,
Не агонь і ня вецер сваёй сілай,
Ён ня ўпаў з-за буры, з-за ўрагану дзікага,

Ні з-за доўгага часу, з-за лёду, з-за вады,
А ўпаў ён па волі ўкраінскага народу.

# Анхела
## Эспіноса Руіз



Нарадзілася ў Малазе (Гішпанія) у 1993 годзе. Яна студэнтка апошнага курса славянскае філялёгіі ў Гранадзкім Унівэрсытэце. Яна любіць музыку і словы (ўсе словы на сьвеце). Таму піша паэзію.